АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

16 – 22 чэрвеня 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 72 рублі
№ 24 (269)

TV ПЛЮС

Чытайце «РГ» у Internet: http://regionnews.promedia.minsk.by

НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 17 чэрвеня | | Нядзеля, 18 чэрвеня | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | +11 – +14°C | +9°C | +11 – +20°C | +9°C |
| Удзень | +15 – +23°C | +13°C | +15 – +26°C | +14°C |

АШМЯНЫ

## Віцэ-прэм'ер Польшчы наведаў Ашмянскі раён

У нядзелю Ашмяны наведала польская дэлегацыя на чале з віцэ-прэм'ерам, міністрам працы і сацыяльнай палітыкі Польшчы **Лёнгінам Камалоўскім**.

Разам з ім былі іншыя дзяржаўныя дзеячы. Яны наведалі прадпрыемствы горада і вёскі раёна, а пасля паехалі з афіцыйным візітам у Літву. Прычына наведвання – маці віцэ-прэм'ера родам з гэтых месцаў. У 1946 годзе паехала ў Польшчу, а праз 2 гады нарадзіўся цяперашні віцэ-прэм'ер.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Вілейскія пажарныя цяпер з бензінам

Інспектар дзяржпажнагляду **Алена Альфер** паведаміла: пасля публікацыі "У вілейскіх пажарных няма бензіну" ("РГ" №20) адбылася нарада ў райвыканкоме.

Цяпер намеснік старшыні райвыканкома **Пётр Юдо** трымае сітуацыю з забеспячэннем пажарных машын палівам пад асабістым кантролем. А такіх бензінавых праблем, як у пачатку пажаранебяспечнага перыяду, вілейскія пажарныя не зведваюць.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

## Семінар наглядальнікаў за выбарамі

У мінулую нядзелю мясцовы праваахоўны цэнтр пад кіраўніцтвам **Івана Крука** арганізаваў семінар па навучанні наглядальнікаў падчас выбараў у Палату Прадстаўнікоў, што маюць адбыцца. Патэнцыяльных наглядальнікаў сабралася больш за 30.

Выступілі выкладчык Гродзенскага ўніверсітэта імя Купалы **Таццяна Маліноўская**, член прэзідыума Вярхоўнага Савета XIII склікання **Мечыслаў Гіруць**, дэпутат Гродзенскага абласнога савета дэпутатаў XXI склікання, у нядаўнім мінулым – старшыня Гродзенскага тэлерадыёаб'яднання **Валерый Задаля** і кіраўнік праваахоўнага цэнтра "Вясна" **Сяргей Мальчык**.

Як гаварылася на сустрэчы, выбары – люстэрка дзяржаўнага ладу краіны, і менавіта па іх можна сцвярджаць, ёсць ці не ў краіне дэмакратыя.

*Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Кірмаш пераносіцца

На 2 тыдні пераносіцца "Маладзечанскі кірмаш". Ён адбудзецца не 1, а 15 ліпеня. Кіраўнік спраў гарвыканкома **Валяр'ян Кавалевіч** тлумачыць гэта тым, што абласныя структуры яшчэ не падрыхтаваліся да яго правядзення.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Пяршаі маюць 560–гадовы ўзрост

Адзначыла сваё 560-годдзе вёска Пяршаі. Адначасова тут святкавалі 50–годдзе калгаса імя К. Маркса, які з'яўляецца адным з лепшых у раёне.

Адбылася ўрачыстая служба ў касцёле святога Юр'я, ушанавалі перадавікоў калгаса, маладыя сем'і, самага маладога і самага сталага жыхара. Прыехаў ансамбль "Сябры", іншыя беларускія артысты. Выступіў і мясцовы народны тэатр, адзіны на Валожыншчыне.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Палітэхнікуму – 40 год

Спаўняецца 40 год з дня заснавання маладзечанскага палітэхнікума.

Заўтра ў навучальнай установе адбудуцца святы, прысвечаныя гэтаму дню. У праграме – сустрэча пакаленняў, відэапрагляд навін тэхнікума, таварыская сустрэча па баскетболе.

Галоўнае, што заняткі будуць доўжыцца толькі да 10–15.

*Аддзел інфармацыі.*

АНОНС

## Лікбез, або Лічыце свае грошы

Ёсць рэчы, якія мы робім, што называецца, на аўтамаце. У тым ліку, даверліва ідзем у ашчадную касу пры атрыманні квітка з лічбамі за нібы спажытую ваду альбо за ўтульнасць, што прынеслі ў нашыя кватэры шмат гігакалорый цяпла.

Беларускае тэлебачанне па колькі разоў на дні заклікае гледачоў лічыць свае грошы. Маю на ўвазе ролік, дзе ў разлікова–касавым цэнтры на здзіўленне жанчыны, чаму яна так мала плаціць, маладзіца з гонарам адказвае:

– Трэба проста паставіць лічыльнікі вады і цяпла!

І мала каму ў галаву прыходзіць, што гэтым самым нам лішні раз пацвярджаюць: цяперашнія нормы спажывання вады ўзятыя "са столі", з рэальнымі паказчыкамі не маюць нічога агульнага.

"Рэгіянальная газета" з наступнага нумара пачынае цыкл публікацый на гэтую тэму.

*Аналітычны аддзел "РГ".*

# На Нарачы робяць арганізаваных турыстаў

*МЯДЗЕЛ. Што для адпачывальнікаў будзе прапанавана на азёрах, расказвае намеснік генеральнага дырэктара Нацпарку "Нарачанскі" па турызме **Самвел Абгаран**.*

– Для "дзікіх" турыстаў абсталяваныя ў маляўнічых куточках ля азёр больш за 40 турстаянак. Адначасова яны могуць прыняць паўтары тысячы чалавек. Там ёсць альтанкі, сталы, пляцоўкі для вогнішчаў, туалеты, смеццезборнікі. Падвозяцца дровы. А на буйных стаянках "Антанісберг", "Качаргі" арганізаваныя кафэ, пад'язджае аўталаўка. За суткі знаходжання на турстаянцы бярэцца плата – 150 рублёў з транспарту і 250 рублёў з чалавека (дзеці да 12 год, інваліды і ўдзельнікі вайны ад яе вызваляюцца). Пуцёўкі можна набыць у турфірмах, у тураддзеле Нацпарку, у лясніцтвах.

**– А калі чалавек прыехаў у выхадны дзень?**

– Пуцёўкі ёсць і ў адміністратара гасцініцы ў к. п. Нарач. А калі чалавек адразу заехаў на стаянку, то яго праверацць нашыя супрацоўнікі, у іх і набудзе пуцёўку.

**– Штрафаваць будзеце?**

– Не. Гэта толькі ў электрычках ці аўтобусах адразу штрафуюць, калі чалавек забег і не паспеў білет набыць.

**– А калі гэты чалавек уладкуецца на адпачынак ля возера не на турстаянцы, а дзе пажадае?**

– Не. Гэта і раней не дазвалялася, і цяпер. Бо так ні чысціню не забяспечыш (смецце куды падзець?), ды і прырода пацерпіць (трэба і дровы аднекуль браць). А на турстаянках, лічу, усё прадугледжана.

**– Для турыстаў, якія жадаюць адпачыць больш цывілізавана, забавы будуць?**

– Можна пасядзець у кафэ, барах. Шмат будзе розных забаў на вадзе: катамараны, "бананы", водная горка, іншае. Распрацавна 5 экскурсійных маршрутаў: "Блакітныя азёры", "Дойлідства Нарачанскага краю", "Па Нарачанскім кальцы"...

*Алесь ВЫСОЦКІ.*




*Схема размяшчэння турысцкіх стаянак Нацыянальнага парку "Нарачанскі"*

1. "Млын"
2. "Вялікі Болцік–1"
3. "Вялікі Болцік–2"
4. "Малы Болцік"
5. "Грумбіненцкі пляж" (м. адпач.)
6. "Альшэўскі пляж" (м. адпач.)
7. "Лысая гара" (м. адпач.)
8. "Балдук"
9. "Малы Сырмеж"
10. "Глыбокі ручай"
11. "Цюкшы–1"
12. "Цюкшы–2"
13. "Цюкшы–3"
14. "Сцепянёва"
15. "Прыазёрная"
16. "Прыглубля"
17. "Антанісберг"
18. "Пруды"
19. "Вялікія Дразды"
20. "Малыя Дразды"
21. "Урочышча Хацкі"
22. "Мыс–2"
23. "Урай"
24. "Мыс–3"
25. "Свірскае"
26. "Мізулічы"
27. "Гара"
28. "Лагер"
29. "Раманоўскага"
30. "Залешнік"
31. "Белая–1"
32. "Белая–2"
33. "Белая–3"
34. "Белая–4"
35. "Курціха"
36. "Азаркі"
37. "Лясніцтва"
38. "Вайсковы прычал"
39. "Пясчаны бераг"
40. "Воўчак"
41. "Скары"
42. "Лотвіны"
43. "Чарняты"
44. "Гатавічы"
45. "Шабаліца"

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# - Што вы ведаеце пра цяперашні чэмпіянат Еўропы па футболе, як да яго ставіцеся?



*Андрэй Багуцкі, працуе на "Унікабе":*

– Ніхто, акрамя мяне, футбол дома не глядзіць. Ёсць 2 тэлевізары, таму нікому крыўдна не будзе. Гэты чэмпіянат адметны роўнасцю каманд, там ёсць на што паглядзець, асабліва цяпер, калі адправіў сваю дзяўчыну ў Амерыку. "Хварэю" за Галандыю. Прагноз фінальнай пары: Галандыя – Англія.




*Сяргей Чурылін, 9 "Е" клас САШМ:*

– Глядзім футбол разам з бацькам, чым парушаем інтарэсы маці і сястры. Але чэмпіянат Еўропы раз на 4 гады бывае, таму, спадзяемся, патрываюць.

Бацька перажывае за Германію, а я яшчэ і за Чэхію з Англіяй. Апошняя, на мой погляд, і стане пераможцай.

*Паліна Бажко, працуе ў сёмым аддзяленні сувязі:*

– Чула пра тое, што чэмпіянат пачаўся. Калі–нікалі сама гляджу футбол, але больш падабаецца хакей, асабліва калі гуляюць беларусы. Цяпер мае мужыкі занятыя агародамі і часу глядзець футбол не маюць.



*Васіль Карніенкаў, вадзіцель, працуе на "Рамбыттэхніцы":*

– Пра тое, што пачаўся чэмпіянат Еўропы, я ведаю. Калі знайду час, то буду адсочваць падзеі, якія там адбываюцца. Дома ёсць 2 тэлевізары, канфліктаў у сям'і не будзе.



*Юрый Цыркуноў, 9 "Б" клас СШ № 12:*

– Даўно чакаў адкрыцця. Відовішча цікавае. Вось толькі крыўдна за чэхаў, гульню якім, лічу, сапсаваў суддзя Каліна. Хвалююся за Югаславію і Чэхію, а маці, якая часам глядзіць футбол, – за Германію.

ФОТААПЫТАННЕ ПАДРЫХТАВАЎ ЮРЫЙ КАРПІЦКІ.

ПРАФЕСІЯ

# Работнік энерганагляду

*ВІЛЕЙКА. Тут, мусіць, як нідзе ў рэгіёне, выкарыстоўванню электраэнергіі надаецца самая пільная ўвага: грэцца трэба ўсім, а вядома, што гэтая самая энергія не скажаш, каб надта таннела ў апошні час. Таму часцяком і закрадаюцца падазрэнні ў сумленным яе выкарыстоўванні. Для гэтага, у прыватнасці, існуе электранагляд увогуле. У яго ёсць некалькі функцый.*

### Па–першае, карная

За першыя 5 месяцаў работнікі Вілейскага электранагляду правялі 138 рэйдаў. У выніку складзены 103 акты па парушэнні правілаў выкарыстання электраэнергіі. Урон склаў 266837 кілаватгадзін ці 4835 тысяч рублёў.

### Як вылічваецца сума штрафаў

Калі вас "застукалі" на парушэнні правілаў, то работнікі зазначаюць усе лямпачкі і разеткі, якія не ўлічаныя. Іхнюю магутнасць няцяжка падлічыць – колькі энергіі "выцекла", напрыклад, за дзень. Потым лічбу перамнажаюць на колькасць дзён з моманту мінулай праверкі – і атрымліваецца аб'ём украдзеных кілават. Любы спажывец ведае, як лёгка можна перавесці кілаваты ў грошы.



*Узор бязладдзя і нядбайнасці.*
ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

### Тэлефон «даверу» ёсць і тут

Калі вы лічыце, што брыгада едзе на праверку ўсляпую, то памыляецеся. І ў энерганаглядзе ёсць свой тэлефон "даверу" (цікавая назва?).

Калі вы бачыце, што ваш сусед абкрадае дзяржаву – уключае зімой 5 каларыфераў, а плаціць "за святло" у два разы менш за вас (зразумела, калі дома ў вас няма 10 каларыфераў, якія працавалі б адначасова) – то можаце тэлефанаваць, і вас уважліва выслухаюць. Затым чакайце: да суседа прыедуць.

Працуюць такія нумары, зразумела, не толькі ў Вілейцы. Хаця не ўсё так жахліва.

### Назіральна–прафілактычная функцыя

У абавязкі работнікаў электранагляду ўваходзіць праверка тэхнічнага стану "электрадробязяў": лічыльнікаў, праводкі.

Прыкладам, кожны лічыльнік энергіі стаіць на ўліку. Ён мае пэўны тэрмін выкарыстоўвання: 4 гады трохфазны лічыльнік і 8 – аднафазны. Пасля прафілактычных работ, якія праводзяцца ў "Мінскэнерга", прыборы вяртаюцца на службу.

У рэйд звычайна ездзяць электраманцёр і інспектары энерганагляду. Усе электрычныя работы робіць першы. Астатнія выносяць прадпісанні, калі ўбачаць недахопы, якія пагражаюць пажарнай бяспецы. Гэта яшчэ свайго роду страхоўка: адказнасць з нагляду здымаецца ў выніку пажару з прычыны няспраўнасці электраправодкі, калі прадпісанні не выкананыя.

### Як сустракаць работнікаў электранагляду

Не затрымлівайцеся перад тым, як адчыніць яму дзверы: чым большая затрымка, тым больш у інспектараў будзе падазрэнняў, што ў вас не ўсё чыста. Хаця пасведчанне папрасіць можаце.

### Найбольш злосныя парушэнні

Адразу караюць за прымітыўныя хітрасці. Напрыклад, за пашкоджаны лічыльнік (пломбы павінны быць некранутыя, а то "умельцы" прасвідруюць адтуліну і ўставяць пабочны прадмет накшталт іголкі, каб ускладніць ход дыска лічыльніка).

Або калі заўважаць перакінутыя правады (можна зрабіць так, каб частка правадоў на "уваходзе" мінала лічыльнік).

Таму лепш не ісці па пратаптаных сцежках, а прыдумаць нешта новае, ці ў дзень рэйду з'ехаць куды з хаты. Але гэта не болей, чым жарт. Танней "задэклараваць" усю спажываемую электраэнергію, чым плаціць немаленькія штрафы, – сведчыць досвед работнікаў электранагляду.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 8 чэрвеня | 15 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 595,00 руб. | 620,00 руб. |
| Марка Герм. | 291,55 руб. | 305,73 руб. |
| Літ | 148,78 руб. | 155,04 руб. |
| Рас. руб. | 21,02 руб. | 21,90 руб. |
| Злоты | 137,33 руб. | 140,57 руб. |
| ЕЎРА | 570,22 руб. | 597,96 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 980 – 1000 руб. | 970 – 990 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 07.06 | 14.06 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1050 | **1150** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 4290 | **5360** |
| Сасіскі | 1 кг | 1270 | – |
| Рыс | 1 кг | 360 | **350** |
| Грэчка | 1 кг | 570 | **580** |
| Цукар | 1 кг | 310 | **320** |
| Алей | 1 л | 670 | **660** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 375 | **370** |
| Маянэз | 250 г | 150 | **150** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | **900** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 260 | **260** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 210 | **200** |
| Лімоны | 1 кг | 880 | **930** |
| Апельсіны | 1 кг | 600 | **650** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 250 | **250** |
| Морква | 1 кг | 360 | **360** |
| Капуста | 1 кг | 360 | **280** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 700 | **600** |
| Масла | 1 кг | 1500 | **1200** |
| Тварог | 1 кг | 500 | **500** |
| Малако | 1,5 л | 220 | **250** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 480 | **500** |
| Пятрушка | 1 пучок | 40 | **20** |
| Цыбуля зялёная | 1 пучок | 80 | **70** |
| Кроп | 1 пучок | 40 | **30** |
| Салата | 1 пучок | 40 | **30** |
| Бульба | вядро | 550 | **500** |
| Морква маладая | 1 пучок | – | **150** |
| Клубніцы | 1 кг | 1500 | **1200** |

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Вяскоўцы мяняюць балоны

***Публікацыя "Вяскоўцаў пакідаюць сам–насам з балонамі" ("РГ" № 21 ад 26 мая) выклікала пытанні чытачоў, якія яшчэ не чулі пра новаўвядзенні. Сітуацыю тлумачыць галоўны інжынер "Маладзечнаміжрайгаза" Валерый Русак:***

– Да 1991 года балоны насельніцтву пастаўлялі толькі мы. Іх нельга было купіць у розніцу. Калі сітуацыя змянілася, выйшла "Палажэнне аб замене 50–літровых газавых балонаў самастойна". Людзі ў нас небагатыя, таму з'явілася магчымасць зэканоміць на ўстаноўцы.

Атрымаць такі дазвол можна было пасля таго, калі складзеш пісьмовую заяву, пройдзеш тэарэтычную і практычную падрыхтоўку. У выніку выдаецца пасведчанне, якое дзейнічае на працягу года.

Допуск мелі толькі тыя абаненты, у якіх газавае абсталяванне адпавядае ўсім стандартам, а забаранялася мяняць балоны інвалідам, жанчынам і асобам, старэйшым за 60 год.

Але ў вёсках асноўную частку жыхароў складаюць жанчыны і людзі пенсійнага ўзросту, таму з'яўляліся скаргі на несправядлівае, на іх погляд, рашэнне. У 1996 годзе выйшаў дадатак да "Палажэння", дзе гаворыцца пра тое, што дазваляецца мяняць балоны ўсім, "акрамя асоб, якія па стане здароўя не могуць выконваць гэтую работу".



*Галоўны інжынер аб'яднання «Маладзечнаміжрайгаз» Валерый Русак.*
ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

Для страхоўкі паралельна ўвялі панумарны ўлік: работнікі газавай службы маюць права замяніць толькі той балон, які раней паставілі. З мая ўвялі пламбіраванне – зразумела, усё гэта для тых, хто не мае права на самастойную замену балонаў. Бабулька на тым здымку парушае закон – у тым выпадку, калі не мае дазвол на замену: падключаць і пераносіць балон яна не мае права.

Сваю ролю адыграла тое, што мінулай зімой былі перабоі са звадкаваным газам, а таксама пастаяннае павышэнне цэн на камунальныя паслугі. Адпаведна падаграецца ажыятаж.

Цяпер на зацвярджэнні ў "Мінсаблгазе" знаходзіцца новае дапаўненне (магчыма, яно ўступіць у сілу з 1 ліпеня), дзе зноў уводзяцца абмежаванні на замену (жанчынам, інвалідам і асобам, старэйшым за 60 год).

Да моманту ўвядзення новага распараджэння мы часова прыпынім інструктаж для асоб, што ўваходзяць у "зону рызыкі": жанчын і пенсіянераў.

*Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.*

СПАЖЫВЕЦ

## Сала павінна мець штамп годнасці

МАЛАДЗЕЧНА. Гараджанка пайшла на калгасны рынак купіць сала. Нягледзячы на завярэнні прадаўца, што прадукт якасны, жанчына вырашыла праверыць яго ў лабараторыі.

Работнік лабараторыі, што знаходзіцца на рынку, груба адмовіў у экспертызе, што абгрунтаваў "добрым таварным выглядам". Жанчына звярнулася ў таварыства па абароне спажыўцоў.

**Ведайце:** спажывец мае права на поўную і праўдзівую інфармацыю. Таму на яйках, сале ці ўпакоўках з мёдам павінны стаяць штампікі, што прадукты правераныя лабараторыяй. Акрамя гэтага, прадавец павінен мець дакумент, што прадукты, якія ён прадае, якасныя.

*Юрый КАРПІЦКІ.*



БЕСПРАЦОЎЕ

## Больш за палову афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі – моладзь ад 16 да 29 год

МІНСК. 51,4% ад агульнай колькасці беспрацоўных, зарэгістраваных службамі занятасці Беларусі, складае моладзь ва ўзросце ад 16 да 29 год. Пры гэтым дзве трэція беспрацоўнай моладзі – дзяўчаты. Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі Аляксандр Нахаенка.

Паводле яго слоў, у апошнія гады ў маладзёжным асяроддзі прасочваецца тэндэнцыя росту колькасці беспрацоўных. Павялічваецца беспрацоўе сярод выпускнікоў школ: з 43% у 1997 годзе яно вырасла да 65,5% ў 1999 годзе. А. Нахаенка звязаў гэта «з пікам нараджальнасці, які назіраўся ў 80-я гады да аварыі на Чарнобыльскай АЭС» і «выхадам школьнікаў на рынак працы». Даволі высокім – каля 25% – застаецца таксама колькасць беспрацоўных сярод выпускнікоў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

Апошнія сацыялагічныя даследаванні паказалі, што 64,6% маладых людзей без асаблівага аптымізму ацэньваюць свае эканамічныя магчымасці. Магчымасць аказваць дапамогу бацькам маюць толькі 7,2% з ліку апытаных. Разам з тым, 53% маладых людзей адной з асноўных крыніц свайго даходу назвалі дапамогу бацькоў і іншых блізкіх сваякоў. Апасаюцца страціць сваё рабочае месца 28% маладых людзей.

*Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.*

МЕРКАВАННЕ ЧЫТАЧА

# Адкуль нашы цяжкасці, і хто іх для нас стварае?

***Ці зручна нам зусім нядаўна было купляць на маладзечанскім харчовым рынку малочныя прадукты з зямлі, асфальту і г. д. разам з пылам, брудам, смеццем?***

Нам – ні ў якім выпадку. Пытанне, каму гэта выгадна? Калгасны рынак, калі верыць надпісу на ўваходзе на рынак, павінен гандляваць прадуктамі, у тым ліку, і малочнымі, але нехарчовых тавараў на харчовым рынку нашмат больш, чым можна гэта сабе ўявіць. Зразумела, з рэчамі прасцей: узяў плату за месца – і галава не баліць. Выгнаў з рынку малочнікаў – і ўсё ў норме (няма чалавека і няма праблем).

Рэчавы рынак – гэта іншае пытанне, для нашай з вамі зручнасці пабудавалі харчовыя павільёны. Выдатная ідэя і ўвасабленне, але грошы ўкладзеныя, а аддача пакуль малаватая. І вось тут самае цікавае: з харчовага рынку малочнікаў гоняць на рэчавы, а там, калі ўсе прыйдуць, месца не хопіць – і зноў тая ж самая праблема, а магчыма, яшчэ горшая (побач з тварагом, бывае, прадаюць сырое мяса). На харчовым рынку вяндліну (гатовы да ўжывання прадукт), здараецца, прадаюць на адным і тым жа прылаўку з сырым мясам.

***Усе мы бываем пасажырамі гарадскога транспарту. Пытанне: для каго працуе кандуктар? Для каго хочаце, але толькі не для нас, а для сваёй зручнасці.***

Калі вы зайшлі ў аўтобус, і народу там – не бітком, вы павінны неадкладна шукаць кандуктара, які сціпла сядзіць на сваім, дрэнна абазначаным месцы; паўзці па аўтобусе, які рухаецца (і гэта пры нашых дарогах), да кандуктара, а потым паўзці назад, таму што да кандуктара ўжо прабіраюцца іншыя жадаючыя "абілеціцца" пасажыры. Але ж гэта работа кандуктара – прадаваць білеты, і гэта ўжо праблемы аўтабазы ці яшчэ каго там, але толькі не нашы; і ёсць у інструкцыі вельмі дзіўная графа пра тое, што кандуктар ходзіць па салоне аўтобуса толькі ў гадзіны пік, што само па сабе праблематычна.

І такіх цяжкасцяў, якія ствараюцца для насельніцтва Маладзечна, мноства.

***З павагай, маладзечанскі "ДОНАР" (адрас і прозвішча ў рэдакцыі).***



*Жыццё нашае...*
ФОТА IREX/PROMEDIA.

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫЯ

## Перастараліся

Аднойчы ў адной з невялічкіх вясковых школак чакалі гасцей з Афрыкі. Па міжнародным абмене. Рыхтаваліся загадзя, каб усё было добра. Час быў савецкі, гасцям з замежжа дагаджалі, каб казалі пра савецкі лад толькі добрае ў сваіх маленькіх і вялікіх краінах.

Пра ежу паклапаціліся, але чым запоўніць адпачынак? Якую культурную праграму паказаць? Рашылі правесці канцэрт мастацкай самадзейнасці. А завяршыць яго песняй з танцамі пад вядомую тады "Чунга–чанга". Танцаваць павінны былі школьнікі з пафарбаванымі ў карычневы колер тварамі. Правялі рэпетыцыю. Адміністрацыя школы ў асобе намесніка дырэктара знайшла канцэрт добрым і дала дазвол на яго міжнародны агляд.

Афрыканцы вельмі саромеліся такой увагі да сябе. Але цярпліва дачакаліся канцэрта, каб пабачыць, на што вартыя гаспадары. Калі ж справа дайшла да апошняга нумара, госці дружна падняліся пасля яго пачатку і выйшлі з залы. Ніхто не зразумеў, што здарылася. А яны цішком селі ў аўтобус і з'ехалі, нават не падзякавалі гаспадарам. Вучні зразумелі гэта па–свойму: "афрыканцы, што з іх возьмеш?".

А адказ на іх знікненне прыйшоў пазней, калі, з–за прапаганды расізму падчас канцэрта, намесніку дырэктара прапанавалі пісаць заяву па асабістым жаданні. Больш за ўсё дзівіліся дзеці: "Мы ж стараліся! За што ж здымаць з работы?". Але гэтае пытанне засталося без адказу.

***Запісаў Алесь РАЛАВЕЦ.***

СПАГАДА

## Шукаем добрае сэрца

Мы – людзі. Мы жывем на гэтай зямлі, радуемся сонцу і змагаемся з цяжкасцямі. Змагацца з імі нам дапамагае наша здароўе. Вельмі складана, калі яно "падводзіць".

У 7 "Б" класе вілейскай гімназіі ёсць дзяўчынка, Кацярына Пыск. Яна вельмі маленькая ростам і таму выглядае, як вучаніца першага–другога класа. Урачы паставілі дыягназ, але лекі, якія неабходныя для таго, каб вырасці, вельмі дарагія. Адна ампула каштуе 30–50 долараў, а на тыдзень такіх ампул трэба шэсць. Лячэнне павінна працягвацца каля года, для гэтага патрэбна 12000 долараў. За мінулы год Каця змагла крыху падрасці, таму што на чатыры месяцы былі лекі, а потым не хапіла грошай...

Каця прыгожая, добрая дзяўчынка. Яна добра вучыцца, займаецца танцамі, іграе на акардэоне. Настаўніца музыкі дапамагае ёй ва ўсім. Яна складае для сваёй вучаніцы індывідуальную праграму, але акардэон вельмі вялікі для Каці.

Запаветная мара дзяўчынкі – хаця б трошкі падрасці.

Добрыя людзі! Адгукніцеся на нашу просьбу і дапамажыце Каці. Мы ўпэўненыя, што знойдуцца добрыя сэрцы, якім і чужая бяда – таксама бяда.

Грашовы рахунак 3130000000225 у філіяле 632 АСБ «Беларусбанк» Вілейкі, код 260. Валютны рахунак 3130000000238. Атрымальнік Кацярына Пыск.

Тэлефон сям'і Пыскаў 8-01771-56535.

***Аднакласнікі і класны кіраўнік Лілія Бахар.***

НАША МІНУЛАЕ

# Візіт ветлівасці

– Штаб Беларускай ваеннай акругі кіпеў нязвычным шумам, як вулей. Сярод знаёмых ваенных сноўдаліся і нейкія важныя цывільныя асобы. Тэрмінова скліканыя артысты ансамбля сціпла сядзелі ў напружаным чаканні. А я тады працаваў вадзіцелем аўтобуса – вазіў гэтых артыстаў, – успамінае Іван Захаравіч, мой колішні сусед.

... На двары пенілася беллю садоў цудоўная вясна 1963 года. Мы атрымалі кватэры з усімі выгодамі ў новым доме. Чаму ж не быць добраму настрою? Вось і пацягнула яго на ўспаміны пра вясну 1940 года.

"Штаб Беларускай ваеннай акругі кіпеў нязвыклым шумам. Сярод знаёмых ваенных сноўдаліся і нейкія важныя цывільныя асобы. Тэрмінова скліканыя артысты ансамбля сціпла сядзелі ў напружаным чаканні. А я тады працаваў вадзіцелем аўтобуса, вазіў гэтых артыстаў, – успамінае Іван Захаравіч, мой колішні сусед. – За сталом нейкія важныя асобы. Адзін чалавек устае і звяртаецца да нас:

– Та–а–рышчы! Вам прадбачыцца адказная місія: несці ў капіталістычны змрок святло сталінскіх ідэй. Карацей, вы накіроўваецеся з візітам ветлівасці ў Латвію.

Тут зала бурна загудзела ад здзіўлення.

– Та-а-рышчы! Та-а-рышчы! Спакойна! – працягваў ён. – Разумею вас, няпроста ехаць у капіталістычны... э... краіну. Выступаць будзеце з канцэртамі. Та-а-рышчы! Вас там... Ціха! Не пакінуць без увагі. Будзе забяспечана ідэалагічная падтрымка: палітрук, кіраўніцтва....

І пасыпаліся на нас, як з рога дастатку, што і як можна, чаго ні ў якім разе нельга і гэтак далей.

– Быць пільнымі, пільнымі і яшчэ раз... На кожным кроку! Удзень і ўначы! Не паддавацца на правакацыі: пад маскай добразычліўцаў могуць таіцца ворагі. Злейшыя ворагі-шпіёны, як вучыць нас мудры, вялікі наш правадыр тшч Сталін. Каб вас, даверлівых, завербаваць, уцягнуць у свае э... шпіёнскія нераты, – палохаў ён нас.

– Ну, шыш! Нас, старых савецкіх вераб'ёў, на мякіне не падманеш, – упэўнена ўставіў палітрук, будучы кіраўнік нашай дэлегацыі. – Памятайце: бацькі вашыя, дзеці, мужыкі, застаюцца тут і адкажуць за вас, калі... Ну, і вам давядзецца вярнуцца, таму памятайце і "пільнуйце". Пільнасць і пільнасць!

Як жа ўстрывожыла нас гэтая навіна! Там жа, у капіталістычным пекле, мруць з голаду, як мухі! Мы гэта добра ведалі са штодзённых перадач нашага радыё, з газет, палітінфармацый. А тут – на табе: ехаць, ды куды! У пекла тое... Давай мы "даставаць" кансервы, купляць хлеб ды сушыць сухары. Ды з якімі цяжкасцямі здабывалі ўсё гэта!

І вось пасля працяглых індывідуальных папераджальных размоў з кожным... Пасля шматлікіх інструктажоў, рэпетыцый, збораў... Пасля дакладных прымерак, пашывак, падгонак... Пасля доўгіх нерватрусаў, з вандзэлкамі, у якіх выратавальныя запасы харчу... Рушылі!

Апранутыя ва ўсё лепшае, што ў нас было.

Пад'язджаем да граніцы. Добра давялося пратрэсціся і наглытацца пылу на дарогах нашага рэгіёна. За спінай паволі асядае пыл у сонцы сталінскай канстытуцыі, а наперадзе – змрок капіталістычнай невядомасці.

Але што гэта? Нейкая цёмная роўная стужка наперадзе.

– Гэта граніца так абсталяваная капіталістамі, каб працоўныя ад іх не збеглі, – зазначае палітрук, кіраўнік нашай групы. І першы яго канфуз: аказалася, што ў "змроку" – роўная, як стол, і прамая, як страла, асфальтаваная дарога!

– Ашуканства! Настаўляюць акуляры тут, ля граніцы! – усё ж не сціхаў палітрук.

Але едзем, а асфальтавае "ашуканства" пад коламі нашага аўтобуса так і не заканчваецца. Убок ад шашы адыходзяць праменькія чысценькія дарогі і ўпіраюцца ў шматлікія багатыя хутары. Тут жа, ля шашы, – сталы, на якіх блішчаць чысцюткімі бакамі біклагі для малака, якія збіраюць машыны–малаказборшчыкі. Ніхто біклагі не ахоўвае, і ніхто іх не крадзе. Насустрач нясуцца чысценькія аўтамабілі, матацыклы. Ні табе пылу, ні трасяніны. Але больш – на тлустых конях, што аж зіхацяць, на прыгожых калёсах – едуць чыста апранутыя латышы.

– Ашуканства! – пастаянна нагадвае нам наш "пільнюк"-палітрук. – "Пацёмкінскія дзярэўні", даруйце, хутары. Даверлівых людзей дурацъ. А сяляне ў гэтых буржуяў з рабочымі паміраюць з голаду ў галечы. Нас, савецкіх страляных вераб'ёў...

Але так і такое – да самай Рыгі. А там у старых вераб'ёў раты ад здзіўлення як адкрыліся, дык і закрыцца не могуць: сядзім і не чырыкаем. Такія багацце, чысціня, утульнасць, прыгажосць, ветлівасць нам і не сніліся.

Толькі мой аўтобус нагадваў сялянскі разбіты воз сярод панскіх шыкоўных карэт. У іх тармазы гідраўлічныя: р-раз – і застываюць, як укапаныя! А ў маім аўтобусе – механічныя, каб стаць перад святлафорам, пачынаю тармазіць за паўквартала! І смех, і грэх.

Канцэрты праходзілі на ўра! Сустракалі і праводзілі нашых артыстаў шквалам апладысментаў. Здзіўляла адно: на выступленні нашыя прыходзілі толькі буржуі, мяркуючы па іх выглядзе і адзенні. І ніякай варожасці да нас чамусьці не праяўлялі. Наадварот, заўсёды чакалі нас вялізныя натоўпы на вуліцах, ля ўвахода ў тэатры, ля гасцініцы. Што за цуд?

– А чаму рабочыя не ходзяць на нашыя выступленні? – запыталіся неяк у палітрука.

– А грошы ён, рабочы, мае? А калі яму хадзіць? А ці дапусцяць яго пузачы-капіталісты сядзець побач у тэатры? Вы што? – здзівіўся "пільнюк".

Армілі нас... Мы не толькі ніколі не бачылі такіх страў. Мы не ведалі іх назваў, толькі здзіўляліся і гаварылі:

– Гэта, гэта і вось гэта мне...

Сталыя рыжане някепска ведалі рускую мову і не хавалі свае сімпатыі да нас, савецкіх. Чамусьці і не баяліся зайздросціць нам, што мы так шчасліва жывем у СССР. Вечарамі перад канцэртамі і пасля іх завяршэння сотні рыжан, а называлі яны сябе рабочымі фабрык і заводаў, круціліся ля нашай групы, прасілі расказаць пра жыццё і працу нашых людзей. А затым ішлі з намі на нашы канцэрты.

Расказваў пра шчаслівую долю нашую палітрук. А нам увесь час нагадваў пра пільнасць.

Асабліва частым нашым госцем зрабіўся Яніс, рабочы аднаго з рыжскіх заводаў:

– О-о! Я быв́аль у Піцерэ. Работаль на за-воо-дзе, – мякка, нараспеў, успамінаў ён. – Да рэвалю–юцыі. У вас без капіталістаў лючшэ. Я слышаль вашэ рад'ё: лючшэ. А я збіраль грошы сыну на матацыкл больш чым паўгода! – скардзіўся ён на свой лёс.

Аднойчы вечарам, падчас чарговай размовы, Яніс сказаў:

– Я зна-аю, вы апрануліся як мага сціпла. Лепшае ў дарогу хто адзене? Толькі буржуі, бо яны ў легкавушках ездзяць. Але, прабачце, чаму ў вас падэшвы з чорнай гумы, а не скураныя? Гэта ж вам у кватэрах паркет... чорныя пісагі бу-удзе.

– А ты ведаеш, колькі ў нас, у СССР, людзей? – жвава спытаў палітрук.

– Ну-у, – задумліва працягнуў Яніс, – мільёнаў... 180, ці не?

– Во! – узрадаваўся, нібы злавіў яго на гэтым за руку, "пільнюк". – Бач, як шмат у нас народу. Таму гумовыя падэшвы – каб шуму менш было!

І такая радасць разлілася па твары нашага палітрука: маўляў, змог жа я абсячы "правакацыю"! Ды так умела!

Вярнуліся мы дадому ўшчэнт ашаломленыя ўбачаным. Як жа там, у капіталістычным пекле, усё было непадобна на тое, што нам штодзённа дзяўбла нашая прапаганда! Жылі там людзі заможна, культурна. Ніхто не паміраў з голаду, як у нас у недалёкія 30-я гады, якія яшчэ былі ў нас на страшнай памяці. Ды і ў тым саракавым жылі мы ой як бедна. Але трэба было трымаць язык за зубамі, таму і дома не вельмі расказвалі пра ўбачанае.

А праз некалькі месяцаў нашы войскі занялі Латвію.

– Без шуму? На гумовым хаду? – жартую я ў тон яму.

– І пацягнуліся адтуль эшалоны ў Сібір: "буржуі", "ворагі народа", – завяршае апавяданне Іван Захаравіч. – Па меркаванні такіх вось "пільнюкоў", як наш палітрук, хоць ты вывозь усіх латышоў. Бо жылі яна па-буржуйску.

Так вось нечакана сутыкнуліся святло сталінскіх ідэй з паўсядзённасцю нармальнага жыцця".

І як добра, што цяпер, у нашы дні, спакойна можна выехаць у любую краіну, без усялякіх інструкцый і павучанняў, дадам я ад сябе.

***Аляксандр НАРКЕВІЧ.***

